ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

3 • 2017
сакавік



Мікола ГІРГЕЛЬ.

**N.B. «Нота бенэ»**

**Звярні ўвагу!**

*Прадастаўленне адносна танных іпатэчных крэдытаў на будаўніцтва ўсім жадаючым зможа прастымуляваць попыт і дазволіць кампенсаваць паніжальны ціск на кошты з боку павелічэння аб'ёмаў будаўніцтва. У выніку жыллё стане дарагім, але даступным, што дазволіць забяспечыць прыбытак будаўнікам і адначасова — магчымасць набыць кватэры.*







*Калі замежныя інвестары пабудуюць у нашай краіне запланаваныя 2 мільёны квадратных метраў жылля, выдаткаваўшы нейкія сродкі, у выніку яны прададуць яго і вывезуць укладзеныя грошы плюс прыбытак. Аднак нашы будаўнікі цалкам у стане ўзвесці за кошт беларускіх грошай тыя ж жылыя дамы.*




*Згодна з прагнозамі, калі Беларусь падключыцца да сухапутнага транспартнага калідора паміж Азіяй і Еўропай, то зможа павялічыць транзітную грузавую плынь праз сваю тэрыторыю прыкладна ў два разы.*

*У сувязі са зменай экспартных напрамкаў Расіі і Казахстана з рынку ЕС на краіны Азіяцка-Ціхаакіянскага рэгіёна чакаецца далейшае зніжэнне аб'ёму транзіту грузаў па тэрыторыі Беларусі. За мінулы год аб'ём чыгуначных перавозак грузаў знізіўся на 7,1%, а ў экспарце транспартных паслуг — на 5%.*



# ДАКЛАДНАЯ ЗАПІСКА

*Гумарэска*



Начальніку райсельгасхарча
Чарназёмаву Івану Кузьмічу
ад дырэктара саўгаса «Шырокія гарызонты»
Пеўнікава Віктара Пятровіча.

Дакладная запіска

Даводжу да Вашага ведама, што рэдакцыя нашай раённай газеты праводзіць няправільную работу. Мяркуйце самі.

У апошнім нумары быў змешчаны крытычны матэрыял, дзе расказвалася пра дрэнную арганізацыю сельскагаспадарчай вытворчасці ў саўгасе «Шырокія гарызонты». Да артыкула прыкладаліся фотаздымкі, якія адлюстроўвалі непрывабны стан спраў у гаспадарцы.Я пасляхова кірую ёй ужо некалькі гадоў.

Як Вы добра ведаеце, ураджай збожжавых і іншых культур мы вырасцілі нядрэнны. Шкада толькі, своечасова не ўбралі. Праўда і тое, што надоі малака знізіліся ўдвая, а прывагі буйной рагатай жывёлы ў нас меншыя, чым у самых адсталых гаспадарках. На ферму цяпер не зайсці з-за гною і бруду. Ды і колькі новай тэхнікі мы загубілі за апошнія два гады, амаль уся яна стаіць пад плотам.

Шаноўны Іван Кузьміч, спадзяюся, вы таксама лічыце, што публікацыя ў газеце матэрыялаў падобнага кшталту наносіць вялікую шкоду нашаму з Вамі аўтарытэту. Улічваючы гэтыя акалічнасці, прашу вас, Іван Кузьміч, націснуць на ўсе рычагі, каб у газеце больш не з’яўлялася крытычных матэрыялаў у наш адрас, а змяшчаліся толькі станоўчыя.

З надзеяй на дапамогу – В. Пеўнікаў.

**Дакладную прачытаў Міхась КАВАЛЁЎ,**
*г. Рагачоў.*




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.



Алег ПАПОЎ.




Вожык мае сяброў па ўсёй рэспубліцы. Любіць падарожнічаць і наведваць сваіх знаёмых, слухаць ад іх розныя навіны, гісторыі, байкі. Напрыклад, ёсць у яго прыяцель Рэкс, які працуе ў Нацыянальным аэрапорце «Мінск», менавіта з ім і адбылася гэтая размова...

# СЁМАЕ ПАЧУЦЦЁ РЭКСА





*Міні-фельетон*

– Прывітанне! Ох, і даўно я цябе не бачыў. Здаецца, цэлая вечнасць прайшла! Расказвай, як жыццё, як служба? – уладкаваўшыся на траве, запытаўся Вожык.

– Усё добра. Працую, лаўлю зламыснікаў, якія імкнуцца правезці незаконныя рэчы. З нашай апошняй сустрэчы спецыяльна для цябе збіраў цікавыя гісторыі на гэту тэму. Я ж памятаю, як ты іх любіш! – з радасцю паведаміў Рэкс.

– Добра ты мяне ведаеш! – заўсміхаўся калючы звярок. – Чакаю падрабязнасцей.

Сабака на хвіліну задумаўся, а потым стаў распавядаць:

– Пачнём з таго, з чым я і мае калегі сутыкаемся часцей за ўсё – з наркотыкаў. Адзін раз мы знайшлі ў пасылцы, якая прыйшла з ЗША, 230 грамаў псіхатропнага рэчыва метрагігіна. Яго ў інтэрнэт-магазіне заказаў 17-гадовы мінчанін, «каб пазбавіцца ад стомы і знізіць напружанне, выкліканае высокімі вучэбнымі нагрузкамі». Згадзіся, дзіўная ў яго вучоба! А яшчэ неяк мой начальнік западозрыў грамадзяніна Грузіі, і нездарэмна! Пры пільным разглядзе багажу мы адшукалі 67 таблетак наркотыку пад назвай метадон. Потым высветлілася, што мужчыну ўжо не адзін раз затрымлівалі ў розных аэрапортах свету за падобныя правапарушэнні. А аднойчы на маіх вачах у страўніку пасажыра быў выяўлены кантэйнер з гераінам, агульнай масай 632 грамы.

– У страўніку? – не паверыў Вожык. – Неяк брыдка становіцца. Але працягвай, цікава цябе слухаць.

– Брыдка яму! А ты можаш уявіць, што адчувалі мае калегі, калі ў дзіцячай лялцы знайшлі чатыры жывыя змяі, перавозка якіх строга забараняецца Сусветнай паштовай канвенцыяй?

– О, на гадаў то я добры ахвотнік, трэба было клікаць у госці, – засмяяўся Вожык.

– Буду ведаць, – падміргнуў Рэкс. – Добра, раскажу табе яшчэ пра тое, як антыкварыят і каштоўнасці спрабуюць нелегальна перавезці. Чаго толькі мы не знаходзілі! І партыю ювелірных вырабаў, і наручных швейцарскіх гадзіннікаў агульным коштам 1 мільён долараў у звычайнай сумцы, і незадэклараваныя рарытэты: статуэткі, сярэбраныя сталовыя прыборы, сувенірныя наборы, жэтоны, інвестыцыйныя зліткі, пано ў дэкаратыўнай раме, 5 камянёў празрыстага колеру, а таксама медалі, ордэны, нагрудныя знакі. Нельга нам расслабляцца ні на




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

хвілінку! У маёй працы на першым месцы стаіць уважлівасць, а часам і нейкае сёмае пачуццё. Неяк зацікавіла мяне пасылка з Італіі. Там была звычайная дзіцячая куртка. Але мой нюх на падвёў! Пад яе падкладкай было схавана амаль шэсць тысяч долараў.

– Ты малайчына! У гэтым я ніколі не сумняваўся, – пахваліў сябра Вожык.

– Дзякуй. Але прабач, трэба бегчы. Як кажуць, служба кліча. Ты заходзь абавязкова, я яшчэ гісторый цікавых назбіраю, – і Рэкс падаўся на сваю нялёгкую работу.

А Вожык услед прамовіў:

– Зразумела, прыйду. І абавязкова раскажу падобныя навіны чытачам часопіса...

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Пётр КОЗІЧ.

**Нічыпар ШЭРАНЬКІ**

## КРАПІВА І БАРШЧЭЎНІК

*Байка*

Баршчэўнік каля плоту раскашуе
Ды хваліцца зялёнаю кашуляй.
Ківае парасонам-галавой,
Даводзіць Крапіве: «Я родзіч твой!
Такі ж пякучы, злосны, як і ты...»
А тая: «Не мялі, кумок, лухты!
Калі і джгнула я якога госця,
Дык гэта, выбачайце, не са злосці,
А з мэтай выхаваўчаю, каб ён
Не краў з грады чужое працы плён.
Твой жа агонь каго як апячэ,
Той тыдзень ледзьве ногі валачэ.
Падоўгу ўсе яшчэ – малы, стары –
Шкрабуць пасля начамі пухіры.
Не сунься лепей да мяне ў радню,
Я і сама сябе абараню!»
***
Саюзнікі бываюць і такія,
Што гнаць бы іх далей сукастым кіем.

## БРОВАР

Пад хваін камлістых сховай
Тут, на селішчы былым,
Днём і ноччу ўпотай бровар
Сцеле нізка шызы дым.

Ўпадабаў калішні хутар
Для таемных спраў Янук:
Ціха ў склепе брагу муціць
Хутаранца ўвішны ўнук.

Ваду чэрпае з крыніцы,
Дроў навалам – поўны лес.
Знае Ян: заўжды цаніцца
Будзе моцны «чэмергес».

След пакуль ніхто не вызнаў,
І начны шчыруе збыт.
Раскашуе чорны бізнес,
Узрастае дабрабыт.

Пасабляюць шатаў сховы,
Цешаць сэрца гаманой...
Ды аднойчы участковы
Глухаманню брыў лясной.

Прыпыніўся ён на ўзлессі,
Ад здзіўлення аж самлеў:
Што за ліха? Вечар весні –
А з-за дрэў нясецца спеў.

То душа ўзахлёб спявала
У грудзіне Янука.
Многа радасці давала
Самагонная рака.

Добра так яму жылося,
Што ад шчасця захмялеў.
Толькі вуха ўсё ж знайшлося,
Каб пачуць і гэты спеў.

*г. Мінск.*



# Чарадзеі па найме

*Фельетон*

Існуе такая катэгорыя людзей, якія называюць сябе экстрасэнсамі. На самай справе «чараўнікі» часцей аказваюцца проста нядрэннымі псіхолагамі: зірнуўшы на гаротніка, яны лёгка вызначаюць ягоныя праблемы. Ашуканцы ўнушаюць, што могуць дапамагчы з імі справіцца, і патрабуюць за чарадзейныя паслугі вялікія грошы...

Міхаіл і Галіна Сідарчукі – пажылая пара з Віцебска. На заслужаным адпачынку, прызвычаліся глядзець тэлевізар, дзе апошнім часам амаль кожная перадача раскрывае сакрэты таго, як стаць шчаслівым, а рэклама абяцае пазбавіць ад усіх клопатаў. Так аднойчы ўвечары Міхаіл убачыў тэлепраграму, дзе па тэлефоне «чараўнікі-экстрасэнсы» лячылі хваробы.

– Галіна! – паклікаў жонку Міхаіл. – Хадзі сюды, зараз будзем змагацца за здароўе!

Жонка доўга адмаўлялася тэлефанаваць па ўказаным нумары, пару разоў назвала мужа дурнем, але, прыгадаўшы болі ў спіне і нагах, здалася. Падумала: «Чым чорт не жартуе!»

Патэлефанавалі. Перш чым атрымаць дапамогу «прафесіянала», пачулі ветлівы жаночы голас, які папрасіў перавесці пэўную суму грошай на вызначаны банкаўскі рахунак. Галіна зноў пачала сварыцца з мужам, бо разумела: колькі ў свеце тых шарлатанаў, што абяцаюць паляпшэнне лёсу! Але Міхаіл шчыра верыў у цуд:

– А раптам нешта атрымаецца? Ну, сапраўды, навошта нам, старым, гэтыя грошы?

Толькі дзеля любага мужа Галіна канчаткова здалася. На наступны дзень, пасля абавязковага пацвярджэння аплаты, даверлівых пенсіянераў злучылі з экстрасэнсам у студыі.

– Назавіце, калі ласка, вашыя імя і ўзрост, – скамандавала эфектная брунетка, тасуючы карты.

– Міхаіл, 62 гады, – упэўнена адказаў стары.

– Сапраўды, бачу! Напэўна, здароўе турбуе?

– Так.

– Усё бачу! Зараз мы адкрыем вашыя чакры, пачысцім энергетычныя каналы, і вы адчуеце паляпшэнне.

«Чароўная лекарка» махала рукамі, з дзіўным майстэрствам тасавала прыгожыя карты і выкладвала іх на стале ў нейкія невядомыя гледачам камбінацыі, нашэптваючы нешта незразумелае. У канцы сеанса «экстрасэнс» запэўніла, што хутка Міхаіл адчуе змены. Шчыра кажучы, нават Галіна была зачараваная. Словы жанчыны з тэлевізара выклікалі ў яе давер, і яна, як і муж, паверыла абяцанням.

Праз тыдзень Міхаілу стала горш. Моцна балела спіна. Але да доктара наведацца адмаўляўся: калі экстрасэнс абяцала паляпшэнне – так і будзе. Галіна не спрачалася.

Яшчэ праз некалькі дзён Міхаіла забралі ў бальніцу. Доктар пытаўся, чаму не прыйшлі да яго. А Галіна чырванела і моўчкі лаяла сябе за празмерны давер.

Атрымліваецца, што найлепшы спосаб засцерагчы сябе ад такой згубнай магіі – не звязвацца з чарадзеямі па найме. Гэтая ісціна падаецца відавочнай, але чамусьці кожны год ахвяр у «экстрасэнсаў» менш не становіцца, а метады «чарадзейнага» вымагальніцтва робяцца больш вынаходлівымі: задачу спрашчаюць тэхналогіі.

Жыхарка Ліды Анастасія Пашэвіч, на лёс якой выпала шмат няшчасцяў, знайшла на прасторы інтэрнэту рэкламу паслуг «чараўнікоў» і ні на хвіліну не засумнявалася, што «экстрасэнсы» здымуць праклён. Але, як і ў выпадку з віцебскімі пенсіянерамі, «лекары» патрабавалі



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

абавязковую перадаплату. Жанчына перавяла 18 000 доляраў — усе сямейныя зберажэнні — на банкаўскі рахунак. Зразумела, у электронным кашальку «магаў» грошы зніклі. Як і яны самі. У міліцыі разважалі: чаму Анастасію, разумную дарослую жанчыну, не насцярожылі настолькі сумнеўныя ўмовы?

Анастасія яшчэ доўга супрацоўнічала з міліцыяй, каб знайсці замежных «лекараў» па фінансавым следзе і вярнуць грошы за «магічныя сеансы». Але нічога не атрымалася.

Усе мы хочам быць здаровымі, шчаслівымі і багатымі. Але залатая рыбка ёсць толькі ў казцы. Таму не давярайце тым, хто абяцае вам усё і адразу — гэта ашуканцы, якія выкарыстоўваюць чалавечыя слабасці. Сапраўдныя чараўнікі за сваю дапамогу грошай не патрабуюць.

**Алеся НІКІФАРАВА,**
*г. Віцебск.*




Андрэй СКРЫННІК.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Браканьер такі блізкі да прыроды, што далей няма куды.

Чалавек робіць усё, каб рэдкія жывёлы і расліны сустракаліся яшчэ радзей.

Калі ваўкі сытыя, авечкі павінны сыходзіць, пакуль цэлыя.

Пад Новы год высеклі столькі елак, што ажно мароз па скуры прабягае.

Жабы прынеслі навуцы больш карысці, чым царэўны.

**Віктар ЖЫБРЫК,**
*г. Дзяржынск.*

Добра, калі ты ідзеш па дарозе жыцця і вецер дзьме табе ў спіну. Але памятай: ён можа змяніць свой накірунак.

Пачуў гукі медных труб? Яны не абавязкова гучаць у твой адрас.

Жыццё пражыць — не поле перайсці. Асабліва, калі яно свежаўзаранае.

**Мікола НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*




Чым больш я сталею, тым больш не давяраю вядомай фразе, якая сцвярджае, што мудрасць прыходзіць з гадамі.

*Генры Менкен, амерыканскі крытык і публіцыст*

## Класікі смяюцца




*Сяброўскі шарж В. Салаўёва, «Вожык» № 5, 1977 г.*

# Пра касмічнае і камічнае

*Сёлета споўнілася б 90 гадоў з дня нараджэння самага «касмічнага» беларускага пісьменніка і перакладчыка Хведара Змітравіча ЖЫЧКІ, які нарадзіўся ў Жлобінскім раёне ў пасёлку з незвычайнаю назваю Марс. Аднак для нас, вожыкаўцаў, ён быў не столькі касмічным, колькі камічным: аўтар часта з'яўляўся на старонках выдання і пад сваім прозвішчам, і пад псеўданімамі. Гумарыстычны талент ужо прызнанага на той час творцы, аўтара шматлікіх паэтычных зборнікаў і кніг для дзяцей, раскрыўся, як гэта часта бывае, зусім нечакана. А выліўся ён у трывалае і плённае супрацоўніцтва з часопісам: менавіта ў серыі «Бібліятэка «Вожыка» выйшла кніга гумарэсак, фельетонаў і пародый Хведара Жычкі «Спагадлівыя людзі» (1977). Манюкі, няшчырыя сябры, нядбайныя бацькі, бяздарныя літаратары – усім дастаецца іранічна-сатырычнага прачуханца ад аўтара. Давайце ўзгадаем некаторыя творы гумарыста, упэўнімся ў іх актуальнасці ды мастацкай вартасці і абавязкова ўсміхнёмся.*

## Хведар ЖЫЧКА

### Няўдалы дзень

У начальніка Дзяўбалы
сёння дзень зусім няўдалы:
у турботах
і клапотах
праляцеў ён неўпрыкмет.
І не змог Дзяўбала нават
выклікаць у кабінет
ні галоўнага,
ні нама,
каб як след ім наківаць,
з інжынера «стружку зняць»...
Нават смешна: сакратарку
белабрысую Адарку
за нядбайнасць не «разнёс»,
не давёў яе да слёз...
Ноч не будзе спаць Дзяўбала –
дзень пражыў ён так няўдала.

*«Вожык», 1986 г., №19.*

### Інструктаж

– Сябры, вы – кемлівы народ,
і хоць гэта нязвычна,
павінны мы правесці сход
дэ-ма-кра-тыч-на.
Каб не займацца балбатнёй,
а вырашыць праблемы,
я прапаную старшынёй
абраць Гвазда Ахрэма.
Ён будзе сходам кіраваць,
як генерал парадам,
і не дазволіць парушаць
рэгламент
і парадак.
Пачнуцца спрэчкі – ты, Сцяпан,
адразу возьмеш слова,
заверыш: выканаем план
датэрмінова,
даклад пахваліш...
А пасля
Кукуля Антаніна
пакрытыкуе Васіля
па частцы дысцыпліны.
За ёй – ліфцёр Ганчар Янусь
са шчырай скрухай скажа
пра дужа беднае меню
ў сталоўцы нашай...
Ды абароніць Апанас
шэф-повара Сунклету:
маўляў, пячэ ў апошні час
смачнейшыя катлеты...
Яшчэ Мамоня-інжынер
падкіне прапанову –
маладажонам больш кватэр
даць у будынку новым...
Калі ж пачнуць мітынгаваць,
не будзь, Антон, авечкай –
сумей усіх перакрычаць:
«Спыняйце спрэчкі!!!»

Такі наказ свайму «актыву»
даваў прафорг Даніла Сліва.
Ды марны быў той інструктаж,
бо сход пайшоў зусім інакш:
Далі там перцу Сліву
і ягонаму «актыву»!

*«Вожык», 1989 г., №9.*






**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

## Чалавек з іскрынкаю ў вачах

*Сёлета магло б споўніцца 60 гадоў беларускаму пісьменніку, выдатнаму паэту-лірыку, прызнанаму майстру слова Алесю Пісьмянкову. Трымаць у руках пяро яго абавязвала, як ён сам жартаваў, само прозвішча. Ды гэта быў не абавязак, а покліч душы. Цеплынёй і шчырасцю прасякнуты яго радкі – і вершаваныя, і празаічныя. Аднак сябры і калегі ведаюць, што ў асобе Алеся Уладзіміравіча суіснавалі дзве іпастасі: і тонкага лірыка, і жартаўніка-гумарыста. Таму, відаць, невыпадкова, што за такі недаравальна кароткі жыццёвы шлях ён паспеў папрацаваць намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», галоўным рэдактарам штотыднёвіка «ЛіМ» і, урэшце, узначаліў «Вожык». Чалавек з іскрынкаю ў вачах дадаў да вожыкаўскіх традыцый сваю ўнутраную інтэлігентнасць і высокі мастакоўскі густ. У сваю чаргу, праца ў выданні раскрыла яшчэ адну рысу гэтай творчай асобы – уменне апавядаць жыва, дасціпна, з іроніяй і гумарам.*

### Нечаканая паралель

Дальбог, я нічога не маю супраць пародыі. Ну хоць бы таму, што ўсе жанры цікавыя, апрача сумнага. Іншая справа – пародыі ў нас нярэдка не проста сумныя, яны аднастайна-шэрыя, а то і вульгарна-непрыстойныя. Чытаючы іх, не ведаеш, дзе смяяцца. Асабліва дастаецца ад аўтараў пародый нашым паэткам: чаго толькі з імі ні выраблялі парадысты! Ды я зусім бы не кранаў гэтую тэму, каб не адзін выпадак.

Аднойчы мы з Анатолем Зэкавым выступалі ў горадзе Ліда перад школьнікамі малодшых класаў. Перш, чым даць слова калегу, я пацікавіўся:

– Дзеці, а ці ведаеце вы, што такое пародыя і хто такі парадыст?

– Я ведаю! – гучна выкрыкнуў хлопчык з задняга раду, які сваім задзірлівым выглядам нагадаў мне знакамітага Вовачку – героя некалі папулярных анекдотаў. – Я ведаю: гэта нешта звязанае з сабакамі...

Ох, і насмяяліся мы тады!

Вечарам мяне вельмі здзівіла тое, што звычайна вясёлы Анатоль быў нейкі задумены. На пытанне, што здарылася, ён сумна ўсміхнуўся:

– Ведаеш, а гэты, як ты кажаш, Вовачка не памыляецца. Сапраўды, ёсць у нашым занятку нешта сабачае: аднаго – укусіш, другога – падкусіш, на трэцяга – гаўкнеш.

Каб хоць неяк развесяліць збянтэжанага сябра, я адказаў радкамі ягонага верша: «Як не выходзяць вершы ўласныя, ты парадыруеш чужыя».

### Не пішы, бацька...

Ці задумваліся вы, чаму маленькім дзецям так падабаюцца вершы? Яны часта і самі гавораць у рыфму. Аднак, калі падрастаюць, ад «ранейшай любові» не застаецца і следу...

Відаць, я не дужа памылюся, калі скажу: нішто так не забівае любоў да паэзіі, як прымусовае і часам бяздумнае завучванне вершаў на памяць у школе.

Аднойчы мне давялося быць сведкам надзвычай цікавага дыялогу. Да аднаго нашага паэта падышоў сын-школьнік і спытаў:

– Што ты робіш, бацька?

– Пішу верш.

– А калі напішаш, што з ім будзеш рабіць?

– Надрукую, напэўна, у газеце.

– А пасля?

– Уключу ў сваю новую кніжку.

– А далей?

– Калі верш атрымаецца выдатны, яго, магчыма, змесцяць у падручніку і ты разам з сябрамі-аднакласнікамі будзеш вучыць яго на памяць.

– Ой, не трэба,– спалохаўся сын, – не пішы, бацька!

### Недурныя

Цяпер у моду ўсё часцей уваходзяць прэзентацыі з фуршэтамі. Вось і ў Доме літаратара апошнім часам рэдка якая вечарына абыходзіцца без так званага фуршэту. Праўда, наш грунтоўны крытык Уладзімір Гніламёдаў неяк трапна назваў іх «паэтычна-павярхоўнымі», пэўна, маючы на ўвазе амаль поўную адсутнасць закускі на адным з такіх прыёмаў.

У час паездкі на радзіму, у Бялынкавічы, я разгаварыўся з бабуляй-аднавяскоўкай:

– Ты мне скажы, дзіцёнак, чаму гэта за тымі заграніцамі і выпіваюць, і закусваюць стоячы? – спыталася ў мяне старая.

– Такая завядзёнка ў іх там, на захадзе, фуршэт называецца...

– Дык завядзёнка, кажаш? – перапыніла маё тлумачэнне бабуля. – Відаць, не дурныя: знаюць, што так болей улезе!




# Сяргею Волкаву — 75!

«Тры разы па дваццаць пяць — не стаміўся маляваць!» Нам падаецца, што гэтыя словы цалкам характарызуюць сёлетняга юбіляра Сяргея Волкава, які, нягледзячы на ўзрост, а можа, і дзякуючы яму знаходзіцца ў выдатнай гумарыстычнай і мастацкай форме. З году ў год з-пад пяра майстра выходзіць шмат трапных карыкатур і сатырычных малюнкаў. І нам, вожыкаўцам, і чытачам часопіса ад гэтага — толькі радасць!

Жадаем юбіляру доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя і новых творчых здзяйсненняў!













**Андрэй СІДАРЭЙКА**

# Зорны рэцэпт

*Іранеска*



Халасцяк Ягораў уключыў тэлевізар. Пачыналася ягонае любімае кулінарнае шоу. Вядучы абвясціў госця праграмы.

– Ды гэта ж мой любімы артыст! – усклікнуў мужчына. – Буду кухарыць разам з ім. Вось сябры здзівяцца, калі пачастую іх стравай па рэцэпце самаго Халімона!

Тым часам артыст разам з вядучым прапанаваў гледачам прыгатаваць суп-пюрэ. Ягораў узмацніў гук ды адправіўся на кухню. З гароднінай у яго быў поўны парадак.

– Спачатку возьмем чыстую каструлю, – скамандаваў госць праграмы.

У Ягорава каструля была адна. Учора ён паленаваўся яе памыць, таму посуд быў брудным. Але мужчына не засмуціўся:

– Зараз прывядзём яе ў баявую гатоўнасць! – Ягораў уключыў гарачую ваду, дадаў у каструлю спецыяльны сродак для мыцця, схапіў вяхотку ды пачаў шараваць.

У гэты час артыст вяшчаў:

– Напоўнім посуд вадой і паставім яго награвацца.

– Ды пачакай ты! Бачыш, не паспяваю! – крыкнуў Ягораў артысту. – Ладна, і так добра, – сказаў ён сабе, спаласнуў каструлю, набраў у яе вады і паставіў на газ.

– Пакуль вада награваецца, возьмем цыбулю, нарэжам яе кубікамі, – распавядаў артыст далей рэцэпт стравы.

Ягораў дастаў адну галоўку, пачысціў і пакрышыў, як і было сказана. Далей, па наказе артыста, ён па чарзе нарэзаў салодкі перац, часнок, памідоры і цукіні.

– Цяпер возьмем патэльню, нальём туды аліўкавы алей.

Ягораў узяўся шукаць патэльню. На шчасце, яна была чыстай. Але вось аліўкавага алею ў доме не знайшлося. У справу пайшоў сланечнікавы.

– Здробненую гародніну трэба пасмажыць, перыядычна памешваючы. Цяпер самы час пачысціць і нарэзаць бульбу і закінуць яе ў каструлю. Няхай варыцца.

Мужчына стараўся як ніколі ў жыцці. Яму вельмі хацелася прыгатаваць фірменную страву свайго любімага артыста.

– Падсмажаную гародніну разам з алеем выкладваем у каструлю. Дадаём на смак соль, каляровую капусту. Можна выкарыстаць шпінат ці кроп.

Пасля таго, як страва прыгатавалася, артыст з вядучым сталі разліваць яе па талерках.

Ягораў таксама з палёгкай выключыў агонь, дастаў талерку і наліў уласнаручна прыгатаваны суп.

– Смачна есці! – прагучала пажаданне з тэлевізара.

– І вам, і вам, – сказаў Ягораў і зачарпнуў лыжку супу.

Варыва засела ў горле. Мужчына скрывіўся.

– О, як смачна! – хваліў вядучы артыста, які таксама са сваёй талеркі паспытаў суп па зорным рэцэпце.

Ягораў нарэшце праглынуў страву.

– Цьфу, што ты хлусіш, – папракнуў ён вядучага, – поўнае глупства. Столькі прадуктаў змарнаваў!

Мужчына выключыў тэлевізар і пачаў збірацца ў бліжэйшую краму па любімыя і правераныя часам пельмені.

– Вось гэта страва, я разумею! – прыгаворваў халасцяк, запіхваючы за абедзве шчакі пельмені.

Зорным рэцэптам Ягораў больш не даваў.

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Пра розум чалавека лягчэй меркаваць па ягоных пытаннях, чым па ягоных адказах.

*Гастон дэ Лэвіс, французскі пісьменнік*




Кацярына
ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ

# ПЛЁННАЯ ПАЕЗДАЧКА

*Гумарыстычнае апавяданне*

Сялянская хата ў вёсцы Града. Гаспадар, Юрась Сініцкі, толькі што вярнуўся дадому пасля нялёгкага працоўнага дня. У яго, калгаснага вадзіцеля, работы заўсёды хапае. А тут яшчэ, ліха на яго, матор у машыне забарахліў! Паўдня поркаўся Юрась, змерз, як цуцык.

Перш за ўсё кіроўца-небарака падбег да печы і, натуральна, прыліп да беленай сцяны. Халодныя рукі нарэшце адчулі прыемнае цяпло, ад якога Юрась нават здрыгануўся. Крыху сагрэўшыся, гаспадар падышоў да печы з іншага боку і адчыніў засланку. На прыпечку стаялі два яшчэ гарачыя чыгункі. У адным была вараная бульба, шчодра здобраная алеем ды пасыпаная духмяным кропам, у другім чакаў апетытны боршч з капусты. Юрась удзячным словам успомніў жонку і хуценька сеў есці. Звычайна Сініцкія вячэралі ўсёй сям'ёй, але сёння разбегліся хто куды. Жонка Ніна пайшла на працу некага падмяніць, пятнаццацігадовы сын Лёня нешта рэпеціраваў у школе, а любімая цешча, Агапа Фёдараўна, мабыць, да сяброўкі зляцела.

З асалодай Юрась паглынаў смачную ежу. Як павячэраў, зноў задумаўся пра сваё гора – сапсаваны матор. Сумныя разважанні перарваў тэлефонны званок. Юрась схамянуўся ад нечаканасці.

– Алё! Гаварыце! – гучна і важна сказаў гаспадар у трубку.

– Го! Здароў, Юрась! – пачулася голас сябрука Міхася. – Па важнай справе турбую цябе, дружа: хачу запрасіць на дзень нараджэння, 50 гадоў, як-ніяк!

– Дзякую, але вельмі ж далёка да цябе ехаць. Сталіца ад нас няблізка. Ды і праблем у мяне зараз багата... Матор у машыне забарахліў!

– Тым больш прыязджай, дзе ты там новы набудзеш? А тут усё прадаецца. Збяромся, пагаворым за чаркай, га?

Юрась, задумаўшыся на імгненне, вырашыў здацца.

– Ну добра, прыеду! Сто гадоў цябе не бачыў. Толькі з жонкай ці дамоўлюся?

– Пра дзень нараджэння не гавары, скажы, па матор едзеш! – навучаў сябар.

Увечары, калі жонка вярнулася, Юрась патлумачыў, што неабходна з'ездзіць у Мінск па матор. Ніна не пускала, маўляў, не твая ж машына, а казённая, дык хай начальства і думае, як дэталі даставаць.

– Я не толькі па матор, Ніначка. Задумаў табе са сталіцы падарунак на 8 Сакавіка прывезці. І для мамы тваёй... – Юрась выкарыстаў апошні аргумент.

Жонка на гэта купілася. Адпусціла аж на тры дні, каб заадно і сваякоў наведаў. А цешча павай стала хадзіць ды ўсім суседкам хваліцца:

– Вось зяцёк у мяне! Не хоча нам з Нінай падарункі ў мясцовай краме купляць. У сталіцу паедзе, каб павіншаваць нас, сваіх самых дарагіх жанчын!

Прыхапіў Юрась свае назапашаныя на падарункі грошы, узяў у дырэктара немалую суму на новы матор і паехаў. Да сябра на дзень нараджэння!

У Мінску Юрась быў пятага сакавіка, спыніўся ў швагра, Нінчынага брата Яўгена. Вечар прызначаўся для сваякоў, шосты дзень вясны адводзіўся сябру Міхасю, сёмага неабходна было купіць матор і падарункі, а вечарам рушыць дадому. Шчыльны графік!

Вечар са сваякамі жонкі прайшоў як звычайна: доўгая вячэра, размовы пра сямейнае жыццё-быццё. Наступны дзень быў куды цікавейшы! Ну, ці часта вясковы мужык, такі, як Юрась, трапляе ў сталічны рэстаран? Спачатку яму было няёмка: вопратка не мадэрновая, правінцыйны акцэнт, рабочыя рукі шафёра прыкметна выдзяляліся супроць бялюткіх абрусаў, якімі былі накрыты святочныя сталы. Але падзеі разгорталіся хутка – тост за тостам. Пасля першага танцавальнага аддзялення Юрась адчуваў сябе больш упэўнена. Неўзабаве госць з Грады асвоіўся і пачаў весяліцца, як кажуць, па-сапраўднаму. І не было канца-краю таму шырокаму ды шчыраму святу!

Як і калі ўсё скончылася, Юрась не памятаў. Да рэальнасці ён вяртаўся памалу. Спачатку з'явіўся моцны галаўны боль, потым млоснасць, а за імі нясцерпны холад. Юрась расплюшчыў вочы і пачаў азірацца. Ніяк не мог уцяміць, дзе гэта ён ляжыць. Над галавой гойдаліся голыя галіны дрэў, на твар церушыўся ці то снег, ці то дождж...

Юрась, крэкчучы, сеў на лаўцы і разгублена разглядзеў незнаёмы гарадскі двор. Панавала ноч, але паружавелае на ўсходзе неба падказвала, што блізіўся позні сакавіцкі ранак.

– Вось дык трапіў! – прашаптаў небарака.

Кожнае слова аддавалася болем у патыліцы. Юрась беспаспяхова намагаўся ўспомніць, як тут апынуўся. Самы сапраўдны правал у памяці! У наступнае імгненне Сініцкі спахапіўся:

– Грошы на месцы?

Забыўшыся на невыносны боль, мужчына саскочыў з лаўкі і палез у кішэню... Пуста! З заміраннем сэрца Юрась агледзеў усю вопратку –

дарма! Грошы зніклі. Ні рубля! Вось табе і матор, і падарункі!

— Абрабавалі! — нягучна крыкнуў Юрась. — Я прапаў!

Пасядзеў Сініцкі яшчэ крыху на лаве, акачанеўшы да зубнога лязгання, пайшоў шукаць дарогі да сваякоў. Дабраўся хутка, бо, як высветлілася, спаў у суседнім двары.

Дзверы адчыніў швагер і, пабачыўшы сваяка, сказаў:

— Мы тут хвалюемся, Ніне хацелі тэлефанаваць, а ён...

— Ціха, Жэнік, не крычы. Ніне, прашу, ні слова! Як бачыш, жывы-здаровы.

Сініцкі праціснуўся ў адведзены яму пакой і зачыніў за сабой дзверы. Зразумела, заснуць не змог — ламаў галаву, дзе грошай узяць, хоць бы на той пракляты матор! У швагра не пазычыш, бо ён толькі нядаўна ўсе свае зберажэнні аддаў — аўтамабіль купіў...

Вырашыў Юрась зранку пайсці на рынак і паглядзець, колькі той матор каштуе, а потым ужо ва ўчарашняга імяніннніка прасіць дапамогі.

Базарны дзень толькі пачынаўся. Сініцкі чакаў, пакуль гандляры раскладуць свае тавары.

— Гэй! — гукнуў яго незнаёмы мужчына. — Дапамажы тавар разгрузіць, добра заплачу. Як хутка справішся, то і прэмію атрымаеш. Я да працавітых шчодры! Ну, што скажаш?

— Згодзен! — узрадаваўся Юрась.

Да апоўдня Сініцкі цягаў скрыні з рыбнымі кансервамі, чырвонай ікрой ды алеем. Гаспадар не падмануў — заплаціў нямала, работнік нават не чакаў такой шчодрасці.

— Можа, яшчэ што зрабіць трэба? — з надзеяй пацікавіўся Юрась.

— У кантэйнеры прыбрацца зможаш? — запытаўся гаспадар.

— А то! — паставіў рукі ў бокі памагаты.

І там прыйшлося цягаць цяжкія скрыні, шараваць падлогу, складаць тавар. Але і ўзнагарода была вартая. Задаволены Юрась пабег па матор. Грошай крыху не хапала, але гандляр махнуў рукой і зрабіў пакупніку зніжку, усё ж, канец працоўнага дня.

Шчаслівы Юрась накіраваўся да Міхася, каб пазычыць грошай на білет дадому. А падарункі... Ну, што зробіш? Не апошняе ж 8 Сакавіка!

Міхась сустрэў сябра радасна.

— Го! Юрась! А я ўжо да цябе сабраўся.

— Да мяне? А навошта я табе спатрэбіўся? — здзівіўся Сініцкі.

— Вось жартаўнік! — засмяяўся сябар. — Доўг аддаць! Трымай!

Міхась уклаў у далонь Юрася грошы.

— Гэта... Як? — прашаптаў збянтэжаны госць.

— Я ўчора ў цябе грошы пазычаў. Ці ты не памятаеш, што мне не хапіла, каб у рэстаране за банкет разлічыцца?

— А я ж думаў, мяне абрабавалі! — пляснуў сабе па лбе Сініцкі. — Але сумеў нешта зарабіць. Плённая паездачка атрымалася!

Вечарам Юрась раней прыехаў на вакзал, зайшоў у краму і набыў падарункі. Ды яшчэ і неблагі заробак дадому прывёз.

8 Сакавіка жонка Ніна зрабіла макіяж той самай касметыкай, пра якую марыла ды толькі ўздыхала, калі ішла рэклама па тэлевізары. Цешча, Агапа Фёдараўна, зранку пабегла да сяброўак, каб пафарсіць бліскучымі бурштынавымі каралямі ды бранзалетам. Юрась жа ціхенька паклаў заробленыя грошы ў сваю хованку. Нядоўга ім там ляжаць! Хутка ж зноў прыйдзецца ехаць па падарункі ў сталіцу — набліжаюцца дні нараджэння жонкі ды цешчы. Каб ім, самым дарагім, добра было!

*г. Мінск.*




Юрый МІХАЙЛАЎ.




Алег ПАПОЎ.




## Прывід Класікі

*Так язычком кранацца да паперы –*
*Табе адной падораны сакрэт.*
***
*Пунсова-чорны той партрэт*
*Журбой спавіты.*

*Мікола ШАБОВІЧ*

Метафарамі, рытмавым памерам
І рыфмай маляваны мой партрэт.
Ты язычком краналася паперы,
Дарыла пранікнёны мне сакрэт.

Ты – дама пік, а я –
шасцёрка трэфы:
Не зведаў шчэ кранання языком.
Ты ж стаць магла бы
лаўрэаткай ТЭФІ
За спакушэнне ўяўных мужыкоў.

Хапіла нас з табой на паўрамана:
Да дзеі Прывід Класікі штурхаў.
Радкі ты цалавала апантана,
А я атруту ў фарбу падмяшаў!

Цяпер мне плакаць з вечара
да рання,
Журбой спавіты будзе мой партрэт:
Без язычком радкоў маіх крананне
Не верыцца мне больш, што я –
паэт.

**Пётр СЯМІНСКІ,**
*г. Гродна.*






## Чым дыхае вечнасць?

*Сонца чырвоным пеўнем*
*За копы садзіцца,*
*Пахне навокал сенам,*
*Травой-медуніцай <...>*
*Так вось, пракос за пракосам*
*І закасіліся ў вечар...*
*Зоркі глядзяцца ў росы,*
*Дыхае сенам вечнасць.*

*Міхась КУРЫЛА*

Па-рознаму вечнасць дыхае
У вёсцы і ў нашым Мінску.
Пакуль, нібы певень, з пыхаю
Сонца садзіцца нізка,

У вёсцы, пракос за пракосам,
Усе закасіліся ў вечар.
Няма тут бананаў-какосаў,
І сенам дыхае вечнасць.

Ў сталіцы ж палёў-агародаў
Сягоння амаль не знайсці.
Тут дыхае вечнасць смуродам
Ад выхлапаў розных. Пайсці б

Туды, дзе няма гэтых гмахаў,
Дзе кветкі, сады-эдэмы,
У вечнасць сваю, адным махам, –
Ажыць у радках паэмы.

**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ,**
*г. Мінск.*


Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




## Вітаю цябе, калючы дружа!

Аматарам спорту добра вядома імя славутага ўраджэнца з Ямайкі Усэйна Болта, якому належаць сусветныя рэкорды ў бегу на 100 і 200 метраў. Але, як выявілася, ягоныя дасягненні ў лёгкай атлетыцы паспяхова перакрыў хлопчык Кастусь. Даведаўся я пра гэта, прачытаўшы задачу з беларускага падручніка па матэматыцы для чацвёртага класа:

«За 5 секунд Косця прабег 60 метраў. Колькі метраў ён прабяжыць за 7 секунд, калі яго хуткасць не зменіцца?»

Атрымліваецца, што хлопчык прабяжыць за 1 секунду 12 метраў, а за 7 секунд – 84 метры. Дыстанцыю ў 100 метраў ён зможа пераадолець за 8,34 секунды. А гэта значна лепш за сусветны рэкорд. Па сілах хлопчыку пабіць і лепшы паказчык у бегу на 200 метраў. Вось дык Косця! Малайчына! Такія лічбы сапраўднаму чэмпіёну нават і не сніліся. Сусветны рэкорд у бегу на 100 метраў роўны 9,59 секунды, на 200 метраў – 19,19 секунды.

Цяпер буду чытаць школьныя падручнікі ўважлівей: а раптам яшчэ які рэкорд прапушчу?

**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Мінск.*




Мікола ГІРГЕЛЬ.

## Прывітанне, Вожык!

На Дзень абаронцаў Айчыны я звычайна раблю свайму мужу падарункі, якія можна выкарыстоўваць у паўсядзённым жыцці. Былі брытвы, гелі для душа, пена для галення і рознае адзенне. Але сёлета я вырашыла падарыць другой палове нешта незвычайнае, каб запомнілася надоўга. Выбрала вось такі прэзент. А чаму б і не! І смешна, і заўсёды патрэбна. Адразу некалькі бляшанак набыла. Мужу спадабалася. Можа, хто з чытачак возьме на ўзбраенне для падарунка на наступны год?!




**Марына КУРПІК,**
*г. Магілёў.*




Драндулет – асцярожна паводзь сябе за рулём.

Кобра – лепей не сустракайся з цешчай.

Пусты халадзільнік – давядзецца сесці на дыету.

Русалка – у шэфа з'явіцца новая сакратарка.

Слімак – не хутка вернуць пазыку.

**Даслаў Мікалай НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*

## Алесь КАМАРОЎСКІ



# Ода жанчыне

Бог, відаць, жадаў дабра,
Толькі з гэтае прычыны
Ён з Адамава рабра
Запусціў у свет жанчыну.

Паляванне пайшло лепш,
Муж цягнуў дамоў дзічыну...
Неўзабаве склаў і верш,
Праслаўляючы жанчыну.

Потым быў матрыярхат,
Кіравалі намі чынна.
Хтось тады прыдумаў мат,
Але, пэўна, не жанчына.

Хоць хадзіла — так было —
Па спіне мужоў ляйчына,
Бачыла усё сяло:
Ёсць сапраўдная жанчына!

Сёння з гонарам ідзём:
Выхавала, палячыла
Ды адправіла ў жыццё
Клапатлівая жанчына.

Сэрца ёкне пад рабром,
Калі стрэльне ўраз вачыма,
Павядзе крутым сцягном
Спакушальная жанчына.

Недарэмна кажа нам
Свет замежны і айчынны,
Каб заўжды «шэршэ ля фам».
Слаўся ж, вечная жанчына!

*г. Мінск.*

## Вясенні эцюд

*Пародыя*

... О, вясна! Як я баюся цябе!..
*Анатоль Зэкаў*

Сонечны вясновы дзень, у мяне вельмі добры настрой. Нягледзячы на паважаны ўзрост, крочыцца лёгка, акрылена.

О, вясна! Што ты робіш са мной?

Раптам чую за спінай таямнічае і хвалюючае пастукванне жаночых абцасаў: цок-цок-цок... Мая крыху прыгорбленая спіна міжволі выпростваецца, стомленыя ногі набываюць пругкасць. О, гэтае меладычнае пастукванне абцасаў, рытм якіх дзіўным чынам супадае з арытміяй майго сэрца! Можа, азірнуцца? Не! Баюся сваім выглядам спалохаць таямнічую спадарожніцу.

О, вясна! Як жа я цябе чакаў!

А абцасікі за спінай працягваюць спакусліва і прываблiва пацокваць. А што, калі яна ідзе менавіта за мной і чакае маёй мужчынскай рашучасці? Трэба азірнуцца, няма больш моцы стрымліваць сябе. Яшчэ крок — і пагляджу на яе.

І ўсё ж не, вунь і мой завулак. Калі яна паверне за мной, рызыкну і пакажу, на што я яшчэ здольны!

О, вясна! Як я баюся цябе!

Нарэшце я павярнуў да свайго дома. Сэрца так моцна тарабаніць, ажно стуку абцасаў не чуваць. Няўжо яна прайшла прама?

Не, усё ж такі чую жаданае «цок-цок» і нават адчуваю патыліцай яе гарачае дыханне. Толькі б не было ў двары маёй жонкі, а то сапсуе гэтую вясновую казку.

Дзякуй богу, каля майго дома нікога няма, і я рашуча, па-мужчынску, азіраюся і... слупянею.

Цок-цок... Мяне абмінула старая бабулька, якая жыве па суседстве, і пайшла па сваіх справах.

О, вясна! Што ты робіш са мной?

**Сяргей ДАВІДОВІЧ,**
*г. Мінск.*




Пётр КОЗІЧ.

# З эканамістаў — у гумарысты!






*Рэдакцыя «Вожыка» заўжды з вялікім задавальненнем знаёміцца з новымі аўтарамі – гэта няхай і завочныя, але вельмі цікавыя сустрэчы. Радуе і тое, што да творчасці на гумарыстычнай ніве звяртаюцца людзі, прафесійна не звязаныя з літаратурнай дзейнасцю. Пры гэтым іх пачыnанні аказваюцца паспяховымі! Як, напрыклад, у нашага сённяшняга дэбютанта Уладзіміра Іванавіча ГРЫШЧАНКІ. Ураджэнец вёскі Завідаўка Добрушскага раёна, эканаміст па адукацыі (скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт, які сёння носіць імя Францыска Скарыны), ён усё жыццё адпрацаваў на заводзе «Гомсельмаш». У мінулым годзе выйшаў на заслужаны адпачынак і, як кажуць, вырашыў заняцца справай для душы. Прыроджанае пачуццё гумару, назіральнасць, адчуванне слова – вось няхітрыя, але такія важныя складнікі творчасці Уладзіміра Іванавіча. Вітаем новага аўтара і спадзяёмся на вясёлае сяброўства!*

**Уладзімір ГРЫШЧАНКА**

## Мудрасць



Вытокі мудрасці у вопыце ляжаць.
Ды вопыт той нялёгка здабываем,
Бо дрэнную адну прывычку маем:
Па сто разоў на граблі наступаць.

## «Прыгажуну»



Калі без ясных для таго прычын
Ты ловіш позіркі цікаўныя жанчын,
Звышабаяльнасцю сваёй не ганарыся:
Правер адзенне лепш і зашпіліся.

## Дапамога ці перашкода?



Ў гісторыі нярэдка так бывала:
Жанчына нас на подзвігі натхняла.
Ды часам (не магу я не сказаць)
Яна ж перашкаджае іх здзяйсняць.

## Мода



Раней, бывала, модныя паненкі
Стараліся, са скуры лезлі вон,
Каб прадэманстраваць свае сукенкі –
Тканіну, колер, вышыўку, фасон.

Гляджу на маладое пакаленне...
Дзе норавы і звычкі тыя дзе?
Дзяўчаты проста лезуць вон з адзення,
Каб скуру паказаць на жываце.



## Варона і Заяц



*Байка*

У лесе на старой яліне
Варона ад будзённых спраў
Адпачывала на галіне,
А побач Заяц прабягаў.
Заўважыў птушку касым вокам,
Спыніўся побач з ёй якраз,
Спытаў:
– Што робіш тут, сяброўка?
– Нічога! – быў такі адказ.
– А я ў турботах ледзь не гіну...
Дай, можа, стомленасць здыму,
Без справы сяду пад ялінай.
– Вядома! – каркнула яму.
Пад дрэвам Заяц размясціўся,
Прыжмурыў вочы, разамлеў...
Аднекуль раптам Воўк з'явіўся,
Схапіў нябогу ды і з'еў.
Варона доўга гаравала.
– Чаму ж я Зайцу не сказала:
Без справы можа той сядзець спакойна,
Хто сеў высока і схаваўся ў лапах хвойных?!
***
Варон дурнымі часта называюць,
Ды часам яны штосьці трапна прыкмячаюць.





*г. Гомель.*




## Небяспечная гульня

*Міні-фельетон*

Ягорка павольна крочыў вакол дзіцячай пляцоўкі і прыдумляў сабе гульню. У галаву не прыходзіла ніякіх цікавых думак, таму калі да яго падбег аднакласнік Цімур, ён быў вельмі шчаслівы. Удваіх заўсёды весялей!

– Чаго ты тут ходзіш такі самотны?

– Ды не ведаю, чым заняцца. На пляцоўцы лужыны адныя, на веласіпедзе яшчэ рана катацца. Бацькі забаранілі ў камп'ютарныя гульні рэзацца. Эх, не люблю я раннюю вясну, – паскардзіўся Ягорка.

– Ну, ты зусім адстаў ад жыцця! – закаціўшы вочы, прамовіў Цімур. – Зараз папулярныя зусім іншыя забавы. Нават камп'ютарныя гульні – ужо мінулае стагоддзе. Цяпер усе за экстрым. Ды такі, каб кроў кіпела.

У хлопчыка загарэліся вочы:

– Я таксама хачу! Раскажы!

– Ёсць такая гульня, называецца «Бяжы або памры». Правілы вельмі простыя: праскочыць перад машынай, якая едзе. Трэба зрабіць гэта як мага бліжэй да яе. Звычайна ўдзельнічаюць некалькі чалавек: адзін выконвае ўмовы гульні, а іншыя здымаюць гэта на камеру. Вось як тут, глядзі, – Цімур дастае смартфон і ўключае відэа з нейкага сайта.

Калі яно скончылася, Ягорка здзіўлена паглядзеў на сябра:

– Дык навошта бегаць перад машынай? Які ў гэтым сэнс?

– Паказаць сваю крутасць, упэўніць усіх, што ты нічога не баішся, умееш рызыкаваць. Адным словам, быць сапраўдным мужчынам, – узбуджана прамовіў Цімур.

– А калі вадзіцель не зрэагуе, не націсне на тормаз? Так калекам можна застацца ці ўвогуле памерці...

– Нічога ты не разумееш! Гэта трэнд, сучасная забава! У Расіі ў «Бяжы або памры» модна гуляць. А ў нас пакуль няма смелых хлопцаў, таму прапаноўваю табе стаць першым. Ты будзеш перабягаць дарогу, а я – здымаць на відэа, – падаў ідэю Цімур.

– Ага, знайшоў дурня! Не хачу потым у бальніцы з пераламанымі косткамі ляжаць. Я лепш пачакаю тыдзень ці два і пачну катацца на веласіпедзе. Вось гэта нармальны экстрым! А цябе я не разумею. Калі ты прачытаеш, што нехта з даха скокне, зробіш тое ж? – узрушана выпаліў хлопчык.

– Ты лічыш, што ў мяне мазгоў няма? – пакрыўдзіўся Цімур. – І праўда, дурасць, а не гульня. Неяк я не падумаў. Пайшлі лепей да мяне ў госці. Бацькі канструктар падарылі, пазбіраем.

– З гэтага і трэба было пачынаць! А то надумаўся, экстрыму яму не хапае! – засмяяўся Ягорка. Хлопцы разам пабеглі дадому.

Дарэчы, гульня «Бяжы або памры» сапраўды ўскалыхнула інтэрнэт у суседніх краінах. Спадзяёмся, нашыя дзеці будуць разумнейшыя і не паддадуцца на спакусу рызыкаваць сваім жыццём дзеля доказу бясстрашша ці порцыі адрэналіну.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Хто пустым справам надае важнасць, той у важных справах будзе пустым чалавекам.

*Катон Старэйшы, рымскі пісьменнік і дзяржаўны дзеяч*

Працаваць, працаваць і ўвесь час працаваць трэба. Інакш яшчэ пры жыцці пакрыешся цвіллю.

*Герхарт Гаўптман, нямецкі драматург*



Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

**Дзмітрый ДЗЕМІДОВІЧ**

# Помста

*Гумарэска*

Сочынскі пляж быў запоўнены так, што знайсці свабоднае месца, а тым больш ляжак, уяўлялася амаль немагчымым. Канешне, гэты курорт далёка не Мальдзівы, таму ў асноўным тут адпачывалі звычайныя людзі з сярэднім дастаткам.

Андрэй Сцефановіч, урач-тэрапеўт, якраз з такіх. Ён быў худы, адны рэбры ды косці. Жонка настаяла, каб паехаў хоць крыху адпачыць. Адпусціла аднаго, не пабаялася, што прыстане да якой-небудзь жанчыны. Бо каму такі кастлявы патрэбны?

Чацвёрты дзень бадзяўся Андрэй па пляжы, палохаючы сваёй худзізной загараючых, калі ягоную ўвагу прыцягнулі маладыя мускулістыя людзі. Яны хадзілі ўцягнуўшы жываты, іншы раз застывалі ў антычных позах, дэманструючы ідэальныя фігуры, быццам на нейкім конкурсе. Сцефановіч іх заўважаў і раней, але цяпер вырашыў падысці бліжэй.

Мужчыны абступілі вельмі прывабную бландзінку. Яе апетытная фігура адпавядала ўсім класічным канонам жаночай прыгажосці і прыцягвала хлопцаў магнітам.

Нягледзячы на такое акружэнне, дзяўчына заставалася халоднай і не выказвала ніякай прыхільнасці да каго-небудзь з іх.

І раптам прыгажуня заўважыла Андрэя. Яна з зацікаўленасцю агледзела яго з галавы да ног. Гэта было так нечакана, што доктар наступныя два дні хадзіў нібыта ў сне. А калі на трэці дзень прыгажуня запрасіла яго да сябе, увогуле не паверыў. Яшчэ больш фантастычнымі былі яе словы:

— Распранайся пакуль, а я хуценька прыму душ і зробім усё, што пажадаеш...

Яна выйшла з душа, накінуўшы на сябе толькі тоненькі халацік, узяла Андрэя за руку, падвяла да дзвярэй у наступны пакой і штурхнула іх. Там за сталом сядзела чацвёра дзяцей ад пяці да дзевяці гадкоў.

— Паглядзіце, дзеці, на гэтага дзядзьку, — сказала прыгажуня. — Калі не будзеце есці, то станеце такімі ж худымі, як ён.

Бедны Андрэй не памятаў, што было далей, бо імгненна выскачыў з пакоя і пабег прэч...

Дамоў ён вярнуўся раней, чым скончыўся адпачынак. Цяжка сказаць, якія змены адбыліся ў яго арганізме, але ён стаў набіраць вагу. Нават у трэнажорную залу пайшоў, і ў хуткім часе пераўтварыўся ў хлопца, не горшага за тых, што бавілі час на сочынскім пляжы.

Гадоў праз пяць Андрэй Сцефановіч зноў наведаў Сочы, але на гэты раз з сям'ёй. У поўнай жанчыне, якая сядзела на пляжы ў адзіноце, ён не адразу пазнаў былую прыгажуню-бландзінку. Ад прывабнай фігуры не засталося і следу. Нямала намаганняў давялося прыкласці Андрэю, каб яна пагадзілася падняцца да яго ў нумар. Праўда, жонку ён загадзя адправіў на пляж.

Як толькі адчыніліся дзверы нумара, вачам былой прыгажуні адкрыўся малюнак: за сталом сядзелі дзеці Андрэя.

— Паглядзіце, дзеці, на гэтую цётачку, — сказаў доктар. — Калі будзеце есці многа тартоў ды пірожных, зробіцеся такімі ж, як яна.

Толькі цяпер жанчына пазнала Андрэя і сарамліва апусціла вочы...

Вы хочаце даведацца, чым скончылася гэтая гісторыя? Сцефановіч знайшоў у жанчыны нейкую рэдкую хваробу, і пасля лячэння бландзінка значна пахудзела. Былой прыгажуняй не стала, але на яе зноў пачалі звяртаць увагу мужчыны.

А потым яны сталі дружыць сем'ямі, але пра гэтыя незвычайныя прыгоды сваім палавінкам вырашылі не расказваць. На ўсялякі выпадак...

*г. Мінск.*

# Пачытайце дзецям!

## У нас у гасцях

# бярозка

## Анекдоцікі

— Вовачка, як можна раздзяліць 4 бульбіны на 5 чалавек?
— Элементарна! Зрабіць пюрэ.

* * *

— Мама, ты мне адзін кавалак пірага паклала, а я хацеў два!
— Не ведаеш, што рабіць? Проста вазьмі нож і разрэж гэты кавалак на два.

* * *

— Мне настаўніца за сачыненне паставіла адзінку, хоць я не зрабіў там ніводнай памылкі.
— Чаму ж тады адзінка?
— Не ведаю. Тэма сачынення была «Як ты правёў канікулы?», я напісаў: «Дзякуй, вельмі добра!»

* * *

Вовачка стукаецца вечарам у дзверы суседа.
— Дзядзька Міхась, а вас не раздражняе, што я кожны вечар іграю на піяніна?
— Яшчэ як раздражняе!
— Тады я вас прашу неадкладна пажаліцца на гэта маёй маме.

## Пытанні для знаходлівых

**1.** Стаіць дуб, на ім 12 галінак, на кожнай галінцы па 4 гняздзечкі, у кожным гняздзечку па 7 птушанятак, кожнае з птушанятак сваё імя мае. Ну, хто загадку адгадае?

**2.** Пеця маніць у панядзелак, аўторак і сераду, у астатнія дні тыдня кажа толькі праўду. Вася маніць па чацвяргах, пятніцах і суботах і кажа праўду ў астатнія дні тыдня. Аднойчы пры сустрэчы Пеця сказаў: «Учора я зманіў!». «Я — таксама!» — адказаў Вася. У які дзень тыдня адбылася сустрэча?

**3.** Якую лічбу трэба паставіць замест пытальніка?

6 6 3 6 – 3
8 1 1 8 – 4
2 2 4 2 – 0
3 3 1 6 – ?

## Адказы на пытанні:

**1.** Дуб — год, галінкі — месяцы, гняздзечкі — тыдні, птушаняткі — дні тыдня.

**2.** У чацвер, бо Пеця сказаў праўду, а Вася зманіў.

**3.** Падлічваюцца не самі лічбы, а кружочкі ў некаторых з іх. Тады ў першым радку па адным кружочку ў кожнай шасцёрцы (усяго — 3), у другім — па два кружочкі ў кожнай васьмёрцы (усяго — 4), у трэцім радку кружочкаў няма наогул (0). У чацвёртым радку, дзе шасцёрка, замест пытальніка трэба паставіць лічбу 1.

## Загадкі

Каля кусцікаў чарніцаў
Хто таўчэцца, мітусіцца?
Шмат іх тут. Звіняць, гудуць,
Рукі, твар агнём пякуць.
Ягаднікаў без пары
З лесу гоняць ...

(Камары.)

* * *

Хто скрабецца па кутках
У каморах і хлявах,
Рве мяшкі, грызе зярняты,
З-пад падлогі лезе ў хату?
Паляваць кот Васька выйшаў —
Уцяклі кудысьці ...

(Мышы.)

* * *

За лапкамі нітачка ўецца.
Хоць майстар спрадвеку без рук,
Ды сетка з карункаў пляцецца —
Так пастку рыхтуе ...

(Павук.)

* * *

Ён вялікі і магутны,
Касалапы і няўклюдны.
Любіць ягады маліны
Ды духмяны мёд пчаліны.
Звера ўзімку не сустрэць —
У бярлозе спіць ...

(Мядзведзь.)

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*

# Студыя маладых карыкатурыстаў




Ганна ДЗЮКАВА і Андрэй СІДАРЭЙКА.



Ганна СІНІЦА і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Кацярына БАЛЬЦЭВІЧ і Андрэй СІДАРЭЙКА.



Анастасія ФІЛЬЧАНКА і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




## Субота не для работы?

Тыдзень хутка праляцеў
Для Ганусі неспадзеў.
І прыйшлі выходныя –
Можна спаць да поўдня ёй.
Хоць і думала суботай
У кватэры прыбіраць,
Толькі нешта неахвота
Нават вочы адкрываць.
Сонца промнямі гуляе,
Грэе твар і нос казыча...
Соня смачна пазяхае,
А вакол усё – як звычна:
Ў ракавіне посуд брудны,
Павуцінне па вуглах.
Нікуды не знікла цудам
Смецце, што на дыванах...
Спіць і думае Ганюся:
«У нядзелю прыбяруся».

**Наталля ПЯТРУШЧАВА,**
*г. Рагачоў.*











Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.

## Модныя джынсы

*З натуры*

Старэйшая ўнучка пераслала з Масквы шмат адзення для сваёй стрыечнай сястры. Мы са сваццяй уважліва перагледзелі ўсе рэчы, але сярод добрых джынсаў чамусьці знайшлі адныя парваныя, з неахайнымі дзіркамі наперадзе.

– Пэўна, рэчы не зусім уважліва пакаваліся, – выказала здагадку я, разглядаючы штаны з лахманамі.

– Забірай добрыя джынсы і аддавай унучцы, а гэтыя занясём у майстэрню, – прапанавала сваццяя.

Вырашылі – зрабілі. За рамонт аддалі немалую суму. Але майстар-швачка добра ведала сваю справу: дзіркі былі зацыраваны намёртва.

Калі я прынесла гэтыя джынсы ўнучцы, маўляў, у калгас на бульбу могуць згадзіцца, тая ледзь не заплакала:

– Гэта ж былі самыя модныя джынсы! Але пасля вашых рамонтаў у іх і сапраўды застаецца толькі бульбу капаць...

**Даслала Зоя НАВАЕНКА,**
*Ляхавіцкі раён,*
*г. п. Падсвілле.*

## Памочнік

Ўнук прыехаў да бабулі,
Думаў, што тут скокі-гулі.
Ды жанчыне не да свята,
Бо на вёсцы спраў багата.
– Ты, Сцяпан, зрабі траншэю,
Я гуркі ў яе пасею.
Хлопец кінуўся за хату,
Ўзяў вялізную лапату.
Сёмы пот ужо сцірае,
Ды лапата не капае.
Тут бабуля падыходзіць:
– Э-э, унучак, хто ж так робіць?
Гэта – шуфель, снег зграбаць,
А ты ўзяўся ім капаць!
Вунь, глядзі, стаіць рыдлёўка,
Пойдзе справа з ёю лоўка.
Хутка ў працы час прайшоў,
Выкапаў памочнік роў.
Зноў бабуля падыходзіць,
Але ўнука не знаходзіць:
Сцёпачка ў траншэі той
Закапаўся з галавой.
– Што ж ты, хлопец, нарабіў?
Ты ж гарод мне загубіў!
Павярнуўся ўнучак крута,
Сеў у хаце за камп'ютар:
«Ў інтэрнэце я пабачу
І бабулі растлумачу,
Як на градах у радкі
Трэба сеяць агуркі».
А бабулі давялося
Клікаць Хведара-п'янтоса,
Каб ён не за «будзь здароў»
Закапаў назад той роў.

**Раіса ВАСІЛЬЕВА,**
*г. Гомель.*

# Выглядаеш на ўсе сто!

*Быль*

Адна пекная кабета даслала ў рубрыку «Знаёмствы» сваю аб'яву: «Цікавая жанчына без шкодных звычак, прыхільніца здаровага ладу жыцця шукае забяспечанага мужчыну з аўтамабілем». Зацікаўленых тэлефанавала шмат, ды амаль усе з аўто, але з прэтэндэнтаў Марына выбірала найбольш прыстойнага. Прыпынілася на тым, які адразу ж паабяцаў прыехаць. І праўда, навошта цягнуць? Дамовіліся на заўтра.

– Што будзеш піць, дарагая? – запытаўся па тэлефоне залётнік.

– Мне даспадобы марціні, – адказала жанчына.

Дамовіліся. Прабіў жаданы поўдзень. Званок. Прыгажуня ставіць апошнюю кропку ў сервіроўцы стала і бяжыць да дзвярэй. Адчыняе, а за імі стаіць лысенькі, пузаценькі, неахайны барадач у галіфэ. Ды яшчэ нападпітку.

– Што вам трэба? Я гасцей чакаю! – раз'юшылася Марына.

Мы ж дамаўляліся пра сустрэчу, – абурыўся кавалер.

– Пётр?! – здзівілася яна.

– Так. Ужо 65 гадоў як Пётр!

– А выглядаеце на ўсе сто...

– Дзякуй за камплімент! – усміхнуўся госць.

– І дзе ж ваш хвалёны жалезны конь? – пацікавілася Марына. – Якой ён, дарэчы, маркі?

– Вараны «мэрседэс-бэнц»! Вунь, стаіць ля пад'езда.

Кабета выглянула на вуліцу.

– Дык тут толькі нейкі чорны конь стаіць...

– Гэта ён і ёсць, мой Гром. Трымай марціні, прыгажуня! – кавалер працягнуў Марыне няпоўную бутэльку без этыкеткі. – Самаробнае, моцная рэч!

Чым скончылася іх знаёмства – невядома, але кавалераў з аўтамабілем жанчына больш не шукала.

**Даслала Алена БАСІКІРСКАЯ,**
*г. Міёры.*



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Леў КАЗЛОЎ.




Калі жанчына называе мужчыну самым разумным, значыць, яна разумее, што іншага такога дурня ёй не знайсці.

*Невядомы аўтар*

# Кожная ліса свой хвост хваліць




*Крыжаванка*

**Па гарызанталі:**

**1.** Сакавік з вадой, … з травой, а май – з кветкамі *(руская прыказка)*. **5.** Духоўнае і матэрыяльнае …, дабрабыт. Паводле павер'яў, гэта чакае кожнага з нас сёлета. Па славянскім календары 2017 з'яўляецца Годам Ліса, які крадзецца, і прыходзіць на змену Году Шыпячага Вужа 21 сакавіка. **8.** Старая ліса лычыкам рые, а хвастом … замятае *(прыказка)*. **9.** Дрэва, на якім сядзела Варона з байкі І. Крылова «Варона і Лісіца». **11.** «А ісціна адна, адна замова: \\ Узрост любой жанчыны – …» *(З верша Д. Пятровіча)*. **12.** Цвёрдыя духмяныя плады паўднёвага дрэва. **14.** Ці …, ці галасі, дык рады не дасі *(прыказка)*. **16.** Хто ў … увайшоў лісой, той у чыне будзе ваўком *(руская прыказка)*. **17.** «Глянь: пад асінамі \\ леташні ліст, \\ там падасінавік \\ хітры, як …» *(З верша А. Вялюгіна)*. **20.** Дзіцячая гульня, па правілах якой адзін з ігракоў, дагнаўшы другога, павінен дакрануцца да яго. **21.** Карціна на палатне. У перакладзе з французскай слова азначае «кавалак тканіны». **27.** «З вясной прыходзіць …, \\ І абуджэнне

ада сну» *(З верша А. Грушэцкага).* **29.** Бавaўняная варсістая тканіна, падобная да аксаміту. **30.** Каня куюць, а ... ногі падстаўляе *(прыказка).* **31.** Паводле беларускіх павер'яў, некалі гэты звярок быў з'едзены лісой, і ад гэтага ягоная поўсць перамянілася з белага колеру на руды. **32.** Сіла льва, не ўласцівая лісе, а ... лісы — не ўласцівая льву *(мангольская прыказка).*

**Па вертыкалі:**

**2.** ... на вечар адкладзі, а бульбу сёння пасадзі *(прыказка).* **3.** «... свята ў лясах, \\ Адступаецца снег» *(З верша Я. Янішчыц).* **4.** ... носам не падлезе *(прымаўка).* **5.** Норавам ваўчок, а па звычках ... *(руская прыказка).* **6.** Пчолкі добрымі былі, \\ Трутня ў ... прынялі... *(З верша Я. Купалы).* **7.** Бог не ..., бачыць круцяля *(прыказка).* **8.** На тое і ..., каб зайца ганяць *(прыказка).* **10.** Каб ліса не падаспела, дык ... воўка б з'ела *(руская прыказка).* **13.** Смех — ...; надзьмуў, пайграў ды кінуў *(руская прыказка).* **15.** «Тут ..., зайчык, мышка, \\ Рыбкі, буслік даўгавязы» *(З верша Я. Коласа).* **18.** На ваўка ..., а кабылу зайцы з'елі *(прыказка).* **19.** Пятрусь ..., Пятро Глебка, Іван Шамякін — вядомыя беларускія пісьменнікі, якія, паводле славянскага календара, нарадзіліся ў год Ліса. **22.** Вадкасць, насычаная рэчывамі тых прадуктаў, што ў ёй варацца. **23.** Свая хатка як родная ... *(прыказка).* **24.** Як не грэе дух, то не сагрэе ... . **25.** Тумба на судне або прыстані для замацавання канатаў. **26.** Кожная ... свой хвост хваліць *(прыказка).* **28.** Тэатральная п'еса жартаўлівага характару.

**Адказы:**

**Па гарызанталі:**

**1.** Красавік. **5.** Багацце. **8.** След. **9.** Елка. **11.** Маладосць. **12.** Айва. **14.** Плач. **16.** Чын. **17.** Ліс. **20.** Квач. **21.** Пано. **27.** Закаханне. **29.** Пліс. **30.** Жаба. **31.** Вавёрка. **32.** Хітрасць.

**Па вертыкалі:**

**2.** Абед. **3.** Водар. **4.** Камар. **5.** Бычок. **6.** Госці. **7.** Цяля. **8.** Сабака. **10.** Авечка. **13.** Валынка. **15.** Лісічка. **18.** Паклёп. **19.** Броўка. **22.** Навар. **23.** Матка. **24.** Кажух. **25.** Кнехт. **26.** Ліса. **28** Фарс.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

## Каб і хацеў — не прыдумаеш!

«Для пацыентаў з вострым болем запіс на прыём да хірурга-стаматолага праводзіцца на наступным тыдні пасля рэнтгенаўскіх здымкаў».

«Прадаецца адзенне, абутак, посуд. Цэны — у шоку!»

«Тэрмінова здыму кватэру (без шкодных звычак) на працяглы тэрмін».

*(З аб'яў.)*

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*г. Мінск.*

«Паважаныя жыхары дома! У сувязі з падрыхтоўкай пад'езду да рамонту будзе праводзіцца расчыстка сцен і столі. Прыносім вам свае нязручнасці».

«Прадаецца сухі корм для хатніх катоў з курыцай».

«Увага! Хто ў гэты панядзелак выкінуў на сметнік тэлевізар? Падарыце, калі ласка, пульт, ён вам усё роўна не патрэбны».

*(З аб'яў.)*

**Даслала Яна ВЕРАБЕЙ,**
*г. Ліда.*



Пётр КОЗІЧ.




## Уладзімір ЦАНУНІН



Ад Стоўбцаў зусім недалёка
Сусед на рацэ неглыбокай –
Маніць вам не буду –
Злавіў баракуду:
Па яблыку кожнае вока!

* * *




Згадаем Старыя Дарогі:
На рынку ласіныя рогі
Зусім выпадкова
Знайшоў участковы,
Прысуд яго быў вельмі строгі.

*г. Вілейка.*

## Нічыпар ШЭРАНЬКІ



Прараб даўгарукі з Нароўлі
Нясе ўсё дахаты з будоўлі.
Харомы – пад неба,
І лазня, як трэба:
Хапуга мясцовай гадоўлі.

* * *



Заўзята на Мінскім на моры
Рыбачыць мінчук год каторы.
Прамоклі валёнкі,
Папрокі ад жонкі –
Ні ўлову няма, ні гумору.

* * *

У Слуцку як некалі жыў я,
Цыганкі мяне акружылі.
Застаўся без грошай,
Без шапкі апошняй –
Вось так яны паваражылі.



*г. Мінск.*

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 3 (1542), 2017 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.

Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны, 748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 06.03.2017. Фармат 60х84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,53. Тыраж 947 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект». ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Матэрыялы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца, прымаюцца толькі ў электронным выглядзе.
Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык».
Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2017
© РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», 2017




Алег ПАПОЎ.

# Кола, дарога, чалавек...

Малюе
Алег ГУЦОЛ













«Вожыкаўскі плакат»

Алег КАРПОВІЧ.



*Каб дайсці ў жыцці да ладу,*
*Мы дамо табе параду:*

*Не сумуй, не пазяхай,*
*Лепш падпіску афармляй!*

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844,**

**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**

**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381**.



**ПАДПІСКА НА I ПАЎГОДДЗЕ 2017 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 3,80 рублёў,
індэкс 01380, цана 3,00 рублёў,
індэкс 748442, цана 10,80 рублёў,
індэкс 01381, цана 8,60 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**




